# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

2 снежня 2016 года №49 (1127)







## Жыхары інтэрната адмаўляюцца трымаць вахцёра за свае грошы

старонка 3

## Як атрымаць субсідыі на жыллё, чаму павысілася камуналка ў інтэрнатах і якая цана за квадрат у новых дамах

старонка 20-21

# Загад аб накіраванні на бульбу падпісалі пасля смерці школьніцы? Ідзе суд



На пярэднім плане – мама Вікторы Папчэні.

старонка 2

Фота Дар'і БУРАКІНАЙ, tut.by.

# ПАДПІСКА на "РГ"

Ідзе падпіска на "РГ" на 2017 год

Цана індывідуальнай падпіскі на месяц – 2 рублі 65 капеек.

ТЭМА НУМАРА

# Загад аб адпраўцы на бульбу быў падпісаны ўжо пасля смерці школьніцы?

МАЛАДЗЕЧНА

**У маладзечанскім судзе 29 лістапада разглядалі грамадзянскі іск бацькі загінулай на ўборцы бульбы школьніцы.**



Перад пачаткам судовага пасяджэння ў калідоры злева направа: былы намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ № 11 Дзяніс Курэц, настаўніца Ірына Апанасевіч, якая суправаджала дзяцей на поле, начальнік аддзела адукацыі Іна Драпеза, прадстаўнік аддзела адукацыі ў судзе Кацярына Трот.

**Алег Папчэня** просіць устанавіць факт працоўных адносін паміж яго дачкой і СВК "Усход-агра". У такім выпадку Дэпартамент дзяржінспекцыі па працы будзе абавязаны правесці спецрасследаванне трагедыі як няшчаснага выпадку на вытворчасці.

Пасяджэнне суда пачалося ў 11 гадзін раніцы.

На судзе прысутнічалі кіраўнік і супрацоўнікі СВК "Усход-агра", начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Томашаў**, настаўнікі сярэдняй школы №11, а таксама начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Іна Драпеза** і прадстаўнік аддзела адукацыі ў судзе **Кацярына Трот**.

У пачатку пасяджэння прадстаўнік бацькі дзяўчынкі ў судзе праваабаронца **Андрэй Стрыжак** хадайнічаў, каб у судзе дазволілі фотаздымку прадстаўнікам СМІ.

Аднак, калі суддзя **Ігар Гарановіч** запытаўся пра гэта ў прадстаўнікоў аддзела адукацыі, Кацярына Трот адказала:

– Справа ў тым, што ў сацыяльныя сеткі выкладваюцца здымкі і публічна абмяркоўваюцца, людзі выказваюць сваё меркаванне. Мы не хацелі б, каб туды патрапілі здымкі нашых педагогаў, і ў тым ліку нашы.

Прадстаўнікі школы паўтарылі за аддзелам адукацыі тое ж самае. Пракурор **Вольга Кашко** таксама была супраць фотаздымкі. Здымку забаранілі.

У пачатку пасяджэння суддзя задаў пытанне бацьку загінулай дзяўчынкі:

– Для чаго вам трэба, каб суд устанавіў факт працоўных адносін паміж вашай дачкой і "Усходамагра"?

На што Алег Папчэня адказаў:

– Я не хачу, каб пакаралі толькі настаўнікаў, якія суправаджалі дзяцей на бульбу, і кіроўцу. Хачу, каб суд устанавіў усіх вінаватых у трагедыі.

Падчас пасяджэння, якое з перапынкам доўжылася да 16:00, высветлілася шмат дэталяў здарэння.

Дзяніс Томашаў, калі адказваў на пытанне, што даведаўся Дэпартамент аховы працы падчас свайго расследавання трагедыі, адказаў, што Вікторыя загінула ўжо тады, калі працы па ўборцы бульбы былі закончаныя, дзеці са сваім вядром бульбы, якое ім дазволілі ўзяць за выкананне працы, вярталіся да аўтобуса.

Вікторыя вырашыла зрэзаць шлях і пайшла наўпрост праз поле.

Там, як ужо вядома, грузавік рухаўся заднім ходам і наехаў на дзяўчынку.

Гэта вядро бульбы ў прадстаўнікоў Алега Папчэні выклікала дадатковыя пытанні:

– Што гэта, як не разлік за працоўныя адносіны паміж школьнікамі і калгасам?

Прадстаўнік школы **Дзяніс Курэц**, які цяпер займае пасаду сацыяльнага педагога, а на момант трагедыі быў намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце, сказаў, што ўборка бульбы была часткай выхаваўчага працэсу і адбывалася ў межах школьнай акцыі: "Дапаможам сабраць ураджай".

На што **Юры Белякоў**, прававы інспектар, запытаўся:

– А якая пазнака была ў той дзень у класным журнале?

– Тым, хто паехаў на бульбу, стаяла "н".

– Калі б Вікторыя Папчэня адмовілася ехаць, гэта было б парушэннем? – удакладніў суддзя.

– Яна б прыйшла на ўрокі з 4-5 вучнямі, якія адмовіліся ехаць. У нас у прынцыпе праца добраахвотная, і тут таксама, – адказаў былы завуч.

Дзяніс Курэц і быў тым самым педагогам, які накіраваў на ўборку бульбы васьмікласнікаў, хаця ў лісце аддзела адукацыі было прапісана накіраваць настаўнікаў ці вучняў 10 класа.

Калі на пытанні суда адказвала цяпер ужо былы завуч **Галіна Пішчык**, яна прыгадала, што пра ліст з аддзела адукацыі даведалася 28 верасня па мабільным тэлефоне, калі ёй патэлефанавалі з аддзела і папрасілі глянуць электронную пошту.

– У той момант я выконвала абавязкі дырэктара, але і ад сваёй працы мяне ніхто не вызваляў, таму адразу гэты ліст я накіравала Дзянісу Курцу. І далей гэтым пытаннем не займалася, не кантралявала яго.

Дзень, калі здарылася трагедыя, Галіна Пішчык апісвае, вельмі хвалюючыся:

– У той дзень прыйшла на працу як звычайна, правяла два свае ўрокі па раскладзе, потым была праверка з санстанцыі. У той жа дзень ад прафкама мы накіраваліся на пахаванне нашай настаўніцы, трэба было аднесці вянок. У той жа час трэба было ісці на пахаванне сваёй роднай цёткі. І яшчэ трэба было праверыць нумар самадзейнасці – не распранаючыся, праверыла. Адышла на паўгадзіны на пахаванне. Толькі вынеслі цела – тэлефануе завуч Курэц і кажа: "У нас надзвычайнае здарэнне". Пакуль ехала ў школу, пракручвала ўвесь час у галаве, што ж магло здарыцца. Нейкая аварыя, ці што. Калі сказалі, што трагедыя здарылася на полі, адразу села ў машыну і паехала туды. Убачыла шмат людзей, пры гэтым, усе працягвалі працаваць. На полі стаяла машына рэанімацыі. Медсястра да мяне падбегла, мая былая вучаніца. Як быццам апраўдваючыся, паўтарала мне: "Я ўсё, што магла, рабіла, я не змагла выратаваць".

А ў гэты час у школе ўжо былі супрацоўнікі міліцыі і ўпраўлення адукацыі па Мінскай вобласці.

**– Мне патэлефанавала Іна Феліксаўна Драпеза, загадала хутка ехаць да яе. Па дарозе заехала ў школу. Зайшла ў прыёмны пакой. Там мне Дзяніс Курэц дае на подпіс учарашні загад, дзе ўжо стаяў яго подпіс. І маё прозвішча, а подпісу не было. Я аўтаматычна яго паставіла, бо мне сказалі: калі скажу, што загаду не было, будзе горш.**

Галіна Пішчык таксама расказала, што гэта здарэнне было шокам для ўсіх. Аднак школа цалкам на сябе ўзяла ўсе расходы на пахаванне дзяўчынкі.

Што тычыцца распараджэння аддзела адукацыі аб дапамозе ва ўборцы ўраджаю, то Галіна Пішчык лічыць такога кшталту дакументы загадам – гэта значыць, абавязковымі да выканання.

А прадстаўніца аддзела адукацыі **Кацярына Трот**, наадварот, сцвярджала, што ліст насіў рэкамендацыйны характар. Чаму?

– Там не было слова "абавязаны", а калі яго няма, значыць, ліст рэкамендацыйны.

– Вы канкрэтна прапісалі ў лісце, што ён носіць рэкамендацыйны характар? – удакладніў суддзя.

– У лісце канкрэтна гэта слова не было напісанае... – адказала пасля хвіліннай паўзы прадстаўнік аддзела адукацыі.

У працэсе абвешчаны перапынак да 6 снежня. Да гэтага часу бакі павінны даць суду астатнія дакументы па справе, у тым ліку дакументацыю з боку аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

**Наталля ТУР.**

# Жыхары інтэрната адмаўляюцца трымаць вахцёра за свае грошы

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыхары інтэрната па вуліцы Галіцкага, 12 адмаўляюцца плаціць заробак вахцёрам сваімі грашыма.**



Фота Наталлі ТУР.

На сустрэчы з жыхарамі інтэрната злева направа: начальнік ЖРЭУ-2 Валер Віткоўскі, намеснік дырэктара УП "Камунальнік" Алег Гладкі, дырэктар УП "Камунальнік" Мікалай Наздрын-Платніцкі.

Загадчыца інтэрната пагражала выселіць тых, хто не падпіша адпаведны дагавор.

Тады жыхары дома склалі калектыўны ліст у адміністрацыю Прэзідэнта, куды прыклалі фотаздымкі таго, што яны карыстаюцца паламанымі кранамі, а ў памяшканні сушылкі сцены пакрытыя цвіллю.

У адказ на ліст дырэктар унітарнага прадпрыемства "Камунальнік" **Мікалай Наздрын-Платніцкі** сабраў жыхароў у ЖРЭУ-2, каб патлумачыць сітуацыю.

Пра гэта нам у рэдакцыю паведаміла жыхарка аднаго з пакояў інтэрната.

**На балансе "Камунальніка" цяпер 21 інтэрнат, або 103 тысячы квадратных метраў жылой плошчы.**

Мікалай Надзрын-Платніцкі ў самым пачатку сустрэчы абвясціў, што яна будзе мець інфармацыйны характар.

Ён патлумачыў, што сёлета дзяржава выдаткавала на рамонт інтэрната 4 600 мільярдаў рублёў старымі.

– Гэта я кажу да пытання сумлення. Тое, што было зроблена да вас, вы губіце да апошняга. Я кажу пра скручаныя краны, пра дзіркі ў пластыкавых дзвярах.

Страты ад утрымання інтэрнатаў у 2016 годзе для "Камунальніка" склалі 8 800 мільярдаў рублёў.

У тым ліку і для таго, каб захаваць агульную маёмасць, "Камунальнік" бачыць сэнс утрымання вахцёраў.

У дагаворы прапісана, што раз на месяц на тое, каб выплачваць заробак вахцёрам, кожны гаспадар пакоя будзе плаціць 57 капеек на квадратны метр ад той плошчы, якую займае.

– Вы абараняеце свае грошы, я абараняю свае, – кажа Мікалай Наздрын-Платніцкі. – Я не настойваю абавязкова на вахцёры, вы можаце выбраць і дамафон, але я прывяду прыклад, як вахцёр выратавала ад крадзяжу пральную машыну, якую зладзеі ўжо паставілі на падваконне, каб вынесці з інтэрната. Як вахцёр выратавала жыццё чалавеку, які заснуў з цыгарэтай.

– Дык наша вахцёрка не падымаецца з крэсла, мы самі за сабой і святло выключаем, і ваду ў кранах, калі цячэ, перакрываем, – выкрыкнулі з залы.

– Значыць, мы прымусім яе падымацца, – адказаў дырэктар "Камунальніка".

Аднак, калі палічыць, то ўтрыманне вахцёраў можа каштаваць некаторым жыхарам да 400 тысяч старымі грашыма ў месяц, бо ёсць сем'і, якія займаюць 33, 45 і нават 70 квадратных метраў жылля.

– За такія грошы спецназаўца з аўтаматамі можна наняць ахоўваць, – чуецца рэпліка з залы.

– Не хочаце вахцёра, – адказвае Мікалай Наздрын-Платніцкі, – тады прапанова. У мяне ёсць тры інтэрнаты, там дзе няма вахцёраў. Першы на вуліцы Першамайскай. Праўда, там няма гарачай вады. Другі – па вуліцы Велікасельскай. 21 стагоддзе, а там пячное ацяпленне. Калі ласка, пішыце заяву, перасялім туды.

Жыхары інтэрната прапанавалі разлічыць ім кошт дамафона, калі яго ўсталяваць замест вахцёраў. Прасілі патлумачыць ім, што значыць радок тэхнічнае абслугоўванне і капітальны рамонт.

Прадстаўнікі ўлады патлумачылі, што тэхнічнае абслугоўванне – гэта бяспечнае пражыванне, гэта падрыхтоўка да ацяпляльнага сезона.

А за грошы, якія жыхары адлічваюць на капітальны рамонт – у канцы года ў бюджэце збіраюцца прыкладна 22 мільярды рублёў старымі, – можна капітальна адрамантаваць чатыры дзевяціпавярхоўкі.

Пыталіся жыхары і пра тое, што ўваходзіць у абавязкі вахцёра. І прыгадалі выпадак, калі па інтэрнаце разгульвалі нецвярозыя людзі, вахцёрка пабаялася ім штосьці сказаць, сама хавалася.

Таму жыхары прапанавалі варыянт – самім размеркаваць дзяжурства паміж сабой.

Мікалай Наздрын-Платніцкі прапанаваў за 10 дзён жыхарам вызначыцца з тым, ці будзе інтэрнат ахоўваць вахцёр, ці дастаткова будзе паставіць дамафонныя дзверы.

Наступная сустрэча адбудзецца ў пачатку снежня.

**Наталля ТУР.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.11 | 1.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9447 | **1,9795** |
| Еўра | 2,0617 | **2,1033** |
| Злоты, 10 | 4,6818 | **4,7463** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0519 | **3,0343** |
| Грыўня, 100 | 7,4056 | **7,7445** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 23.11 і 30.11** | | |
| Еўра | 2.0500/2.0750 | **2.0800/2.1020** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9550 | **1.9650/1.9800** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 23.11 | | 30.11 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 145 000 | 14,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 16 000 | 1,60 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 69 900 | 6,99 | 64 900 | 6,49 |
| Капуста, 1 кг | 2 300 | 0,23 | 2 900 | 0,29 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 39 500 | 3,95 | 55 000 | 5,50 |
| Лімоны, 1 кг | 33 500 | 3,35 | 29 500 | 2,95 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Мандарыны, 1 кг | 28 500 | 2,85 | 28 500 | 2,85 |
| Гранаты, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 500 | 2,95 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 22 500 | 2,25 | 24 900 | 2,49 |
| Агуркі, 1 кг | 37 500 | 3,75 | 37 500 | 3,75 |
| Перац, 1 кг | 43500 | 4,35 | 44 900 | 4,49 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Вінаград, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 24 900 | 2,49 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 21 500 | 2,15 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 14 900 | 1,49 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Абакралі лецішча каля Ракава: вынеслі тэлевізары, варачную панэль і нават чайнік

**ВАЛОЖЫН**

Невядомы ўзламаў і абакраў лецішча мінчаніна ў перыяд ад 16 да 26 кастрычніка.

Дом месціцца ў садовым таварыстве "Чабарок" каля вёскі Туркаўшчына Ракаўскага сельвыканкама.

Злодзей скраў тэлевізар "Самсунг" на 40 цаляў і "Панасонік" на 32. Вынес таксама музычны цэнтр, электрачайнік і пыласос. А варачную панэль зняў проста са сталешніцы.



Калі вам штосьці вядома пра злачынства, Валожынскія следчыя просяць пра гэта паведаміць ім па нумарах:
**(801772) 56-6-20, 54-0-21.**

**Аляксандр ШУЛЬГА, старшы следчы Валожынскага РАСК, маёр міліцыі.**

## Ад ўдару з машынай малое дзіця выпала з каляскі на дарогу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя адбылася каля 10 гадзін у нядзелю, 27 лістапада.

60-гадовы кіроўца на "Таёце" ехаў з боку Смаргоні каля "Спадарожніка" па крайняй левай паласе. З боку, па крайняй правай, ехала іншая машына, якая прытармажвала каля пешаходнага пераходу. У гэты момант па пешаходным пераходзе ідзе мама і тата з каляскай, у якой ляжыць 11-месячнае дзіця.

Кіроўца "Таёты" экстранна тармозіць, але машыну спыніць немагчыма. На слізгальным моманце машына чапляе каляску. Бацька з каляскай падае, а з яе на дарогу выпадае дзіця.

Пасля высвятлення сітуацыі стала зразумела, што 25-гадовая мама і 24-гадовы тата ішлі з дзіцем з магазіна. Калі пераходзілі пешаходны пераход, то ўбачылі, што прытарможвае машына на крайняй правай паласе. Як тлумачыць дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**, яны не бачылі "Таёту". Кіроўца "Таёты" таксама не бачыў пешаходаў з-за машыны, што была на крайняй правай.

Дзіця атрымала пашкоджанні, але яго маці адмовілася ад шпіталізацыі.




## Восем парушэнняў за адзін вечар: п'яны бяспраўнік з'ехаў з месца аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Днём у панядзелак, 28 лістапада, 56-гадовы кіроўца "Аўдзі 80" ехаў па вуліцы Маўчанскага.

Справа ззаду адчуў удар у машыну. Стукнуў яе кіроўца "Опеля-Кадэта", які з'ехаў з месца аварыі.

Праз 15-20 хвілін яго затрымалі. Дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош дадае, што на медаглядзе вызначылі яго ап'яненне і канцэнтрацыю алкаголю ў 3,2 праміле.

Кіроўца парушыў правілы восем разоў: не было страхоўкі, дакументаў, тэхагляду, не меў правa на кіраванне, праехаў на забаронены сігнал святлафора, факт ДТЗ, кінуў месца аварыі і быў п'яны.

Яму пагражае штраф.

## Грузавік збіў у Радашкавічах жанчыну, якая не рэагавала на сігналы

**МАЛАДЗЕЧНА**

У панядзелак, 28 лістапада, 29-гадовы кіроўца машыны "ДАФ" ехаў каля пошты ў Радашкавічах у бок Маладзечна.

У гэты час ішоў дробны снег, дарога заснежаная і апрацаваная солева-пясчанай сумессю. Машына развіла хуткасць 50 км/г. Кіроўца бачыць, як дарогу перабягае жанчына. Сігналіць і тармозіць, але жанчына на гук не рэагуе.

Ад сутыкнення яе адкінула на тратуар. Кіроўца выклікаў ДАІ і "хуткую".

50-гадовая мясцовая жыхарка патлумачыла, што паглядзела па баках перад тым, як пераходзіць дарогу, але машыну не бачыла. Дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош дадае, што яна атрымала пашкоджанні. Па факце здарэння праводзіцца праверка.

**Аддзел інфармацыі.**



Кадр з фільма "Крык 4".

# Цяжарная жанчына парэзала бацьку

**АСТРАВЕЦ**

**Сёлета 29 мая ўвечары ў выніку сямейнай сваркі жыхарка вёскі Малі на Астравеччыне ўдарыла нажом свайго бацьку.**

Па словах вінаватай, пацярпелага і сведкі, цэлы дзень перад здарэннем яны ў сваім доме разам з гасцямі пілі гарэлку.

Калі госці сышлі, паміж мужчынам і яго жонкай пачалася сварка. 23-гадовая дачка пачула і ўмяшалася ў канфлікт. Па яе словах, яна пачала заступацца за маці.

Падсудная распавяла, што бацька сам справакаваў яе на гэты ўдар нажом. Ён замахваўся на маці. Спачатку, па словах дачкі, яна стукнула бацьку качаргой, а той у адказ разбіў ёй твар.

Пасля ўсе быццам бы супакоіліся. Але праз некаторы час бацька зноў пачаў сварыцца на жонку і дачку.

**Тады маладая жанчына прыгразіла бацьку, што зараз зарэжа яго. Па словах вінаватай, яна сказала так, каб супакоіць мужчыну.**

Ён сказаў "хочаш – рэж", не ўспрымаючы сур'ёзна словы дачкі. Тады яна ўзяла з паліцы складны нож, расклала яго. Падышла да канапы, дзе ляжаў бацька, і ўдарыла мужчыну нажом. Потым уцякла. Па словах дачкі, такім чынам яна хацела напалохаць бацьку.

У хаце, дзе адбылося здарэнне, супрацоўнікі міліцыі знайшлі складны нож, майку з плямамі крыві. Кроў была таксама на падлозе.

Маладую жанчыну прызналі вінаватай у здарэнні. Сама яна таксама цалкам прызнала сваю віну. Суд улічыў тое, што яна раскайваецца ў злачынстве.

Згодна з медыцынскім заключэннем, жанчына мае сіндром залежнасці ад алкаголю. На момант злачынства была цяжарная, таму атрымала ў якасці пакарання толькі штраф.

Яна павінна будзе заплаціць штраф 50 базавых велічынь, а таксама прымусова лячыцца ад алкагалізму.

На сёння раны ў мужчыны загаіліся. Прэтэнзій да дачкі бацька не мае.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## Жыхар Валожынскага раёна прыехаў на вяселле і застаўся без вадзіцельскіх дакументаў

**ВАЛОЖЫН**

Здарэнне адбылося 26 лістапада ў кафэ "Лясное", што непадалёк ад Ракава, падчас вяселля, што святкавалася ў гэтым кафэ.

Невядомы кінуў камень у салон аўтамабіля "Фольксваген-Шаран", разбіў шкло і скраў з салона аўтадакументы кіроўцы **Анатоля Мар'янавіча Ламакі.**

Здарэнне адбылося па часе з 16:30 да 21:00, пакуль гаспадар машыны быў на вяселлі, куды яго запрасілі.

Камень знайшлі ў салоне аўтамабіля.

– Іншых рэчаў зламыснік з машыны не забраў, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Шульга.**

Валожынскі следчы камітэт просіць відавочцаў або ўсіх тых, каму штосьці вядома пра здарэнне, паведаміць пра гэта ў Валожынскі РАСК па тэлефонах:
**8-1772-56-6-20,**
**8-01772-55-1-31,**
**8-01772-54-0-21.**

**Наталля Тур.**

## ДТЗ у Валожынскім раёне: двое загінулых

Раніцай 28 лістапада, каля 8:40, на 64 кіламетры дарогі Мінск-Ашмяны, у Валожынскім раёне, паблізу вёскі Семернікі адбылося лабавое сутыкненне.

Кіроўца аўтамабіля "Рэно-Меган", выконваючы абгон, у лабавую сутыкнуўся з аўтамабілем "Шаўрале".

У выніку аварыі вадзіцель і пасажырка "Рэно" загінулі на месцы здарэння. Жанчына, кіроўца "Шаўрале", дастаўленая ў бальніцу. Усе ўдзельнікі аварыі – жыхары Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі**

# Пераможцы конкурсу атрымалі смартфоны

**У конкурсе "Не губляй ніводнага дня" перамаглі дзве маладыя жанчыны.**


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Настасся Красічэнка.


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Марына Сільвястровіч.

"Рэгіянальная газета" ўзнагародзіла пераможцаў у суботу, 26 лістапада.

**Марына Сільвястровіч** працуе ў лабараторыі маладзечанскай бальніцы №1. На ўзнагароджанне яна завітала ў рэдакцыю з мужам.

Жанчына распавяла, што пра конкурс ёй падказала сястра. Не спадзеючыся на перамогу, даслала фотаздымкі і заклікала галасаваць за сябе сяброў і знаёмых.

У выніку перамагла ў намінацыі "Прыз глядацкіх сімпатый", сабраўшы найбольшую колькасць клікаў у галасаванні на сайце – 2 802. Чытачам спадабаліся мілыя і пяшчотныя вясельныя фотаздымкі маладой жанчыны.

Калі журналіст "РГ" **Зоя Хруцкая** ўручыла Марыне падарунак – смартфон, яе муж пракаментаваў:

– Ніколі не веры ў розныя конкурсы. А вы мяне здзівілі.

### Галасавалі 18 тысяч чалавек

У галоўнай намінацыі конкурсу "Выбар рэдакцыі" перамагла **Настасся Красічэнка** са Светлагорска. Дзяўчына цяпер вучыцца ў БДУ на праграміста. А пра конкурс ёй падказала сяброўка з Валожына, якая ведала, што Насця захапляецца фатаграфаваннем.

У інтэрнэт-галасаванні фота Настассі таксама сталі папулярнымі і атрымалі 1 043 галасы і трэцюю пазіцыю. Дзвюх пераможцаў у галасаванні раздзяляе толькі фатограф **Станіслаў Багдзевіч**, якога на другую пазіцыю паднялі 2 465 галасоў. Агулам у галасаванні зарэгістравана 18 472 галасы.

Настасся як пераможца намінацыі "Выбар рэдакцыі" атрымала не толькі ў падарунак смартфон, але і ганар ілюстраваць сваім фотаздымкам фірменны каляндар "РГ" на 2017 год.

З ім ужо працуюць у друкарні, і нашы падпісчыкі атрымаюць яго ў падарунак з першым нумарам газеты ў новым годзе. Ён будзе не толькі візуальна прыгожы, але і зручны. У ім будуць размешчаны візіткі некаторых арганізацый, якія могуць быць вам карысныя.

### Чакайце конкурс праз год!

Конкурс "Не губляй ніводнага дня" "Рэгіянальная газета" сёлета правяла ўпершыню. У ім паўдзельнічалі 53 чалавекі. Сярод дасланых здымкаў былі пейзажы, архітэктурныя помнікі, партрэты, фотаздымкі сямейнага жыцця.

"Рэгіянальная газета" шчыра дзякуе ўсім, хто ўдзельнічаў у конкурсе.

**У новым годзе збірайце свае ўражанні і шчаслівыя моманты на фота, а праз год мы плануем паўтарыць акцыю "Не губляй ніводнага дня".**

Няхай кожны дзень будзе яркім!

Калектыў "РГ".

## Сярод каго абіраць "Асобу года-2016"?

**Конкурс, у якім мы абіраем жыхара рэгіёна, які вызначыўся добрай справай у бягучым годзе, пройдзе ў трэці раз.**

Раней мы рабілі так: абіралі кандыдатур сярод тых, пра каго пісалі за год. Сёлета мы хочам пашырыць кола прэтэндэнтаў і просім у гэтым вашай дапамогі, дарагія чытачы.

Калі вы хочаце прапанаваць сваю кандыдатуру на конкурс "Асоба года-2016" па версіі "Рэгіянальнай газеты", дасылайце заяўку нам на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а. У назве ліста ці на канверце зрабіце пазнаку "Асоба года".

У заяўцы дайце наступныя звесткі:

1. Імя, прозвішча і імя па бацьку кандыдата.
2. Дату нараджэння і месца жыхарства.
3. Як звязаны з рэгіёнам выдання "Рэгіянальнай газеты".
4. Чым ён вызначыўся ў 2016 годзе?
5. Кантакты кандыдата: нумар тэлефона, адрас электроннай пошты.
6. Звесткі пра таго, хто прапануе кандыдата.

### Як будзем выбіраць асобу

Заяўкі ад чытачоў мы будзем прымаць да 14 снежня. На пасяджэнні 15 снежня работнікі "РГ" прымуць спіс кандыдатур, якія будуць спаборнічаць за тытул "Асоба года-2016". Сярод кандыдатаў будуць не толькі прапанаваныя чытачамі асобы, але і героі нашых публікацый.

**16 снежня на нашым сайце rh.by мы запусцім галасаванне, якое працягнецца да 26 снежня.**

### Што чакае пераможцу

Той, хто атрымае ганаровы тытул, упрыгожыць вокладку аднаго з першых нумароў "РГ" 2017 года, яго запросяць на ўрачыстую сустрэчу з супрацоўнікамі рэдакцыі, дзе атрымае каштоўны прыз.

"Асобай года-2015" стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**, які набраў 32% галасоў.

"Асобай года-2014" стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця. Ён двойчы ныраў за хлопчыкам, пакуль аднагодкі стаялі і смяяліся.

Аддзел інфармацыі.




## Як касметалогія станавілася паўнацэннай прафесіяй

**У чым розніца паміж прафесіямі касметык і касметолаг?**

Разбіраемся разам з абсалютнай чэмпіёнкай Беларусі па макіяжы дырэктарам вучэбнага цэнтра "Сфера прыгажосці" **Святланай Прадухай**.

Жанчыны ў любыя часы імкнуліся схаваць недахопы і як мага даўжэй захаваць натуральную прыгажосць. Таму вядомыя дзеячы шукалі эліксір прыгажосці. Так зараджалася касметалогія.

### Яны шукалі рэцэпт прыгажосці

Першы даведнік па касметыцы склала **Клеапатра** ў старажытным Егіпце. Яго выкарыстоўвала як ідэал прыгажосці царыца **Неферціці**.

Затым касметыка трапіла ў Грэцыю, і слова "касмеін" стала азначаць "упрыгожваць". У старажытнай Грэцыі захавальнікамі сакрэтаў прыгажосці былі касметы. Яны валодалі мастацтвам масажу, макіяжу, догляду за тварам і целам.

Паслядоўнік **Гіпакрата Дыёкл** апісаў карысныя ўласцівасці масак, мазяў для змякчэння скуры, догляду за вачамі, пазногцямі, валасамі. Рымскі доктар **Гален** пакінуў навуковыя працы па касметыцы. **Авіцэна** зрабіў "Канон урачэбнай практыкі" са шматлікімі касметычнымі рэцэптамі.

У старажытных Індыі, Кітаі, Японіі, Персіі дзяўчат з маленства навучалі касметалогіі з выкарыстаннем натуральнай касметыкі. У старажытных яўрэяў, вынаходнікаў дэпіляцыі, было запісана ў зводзе законаў, што муж абавязаны даваць грошы жонцы на касметалагічныя працэдуры.

У Еўропе і на Русі царква забараняла касметалогію, таму была менш папулярная, стала развівацца ў 16 стагоддзі. У пачатку 20 стагоддзя ў Расіі дзейнічаў закон на права займацца доглядам за скурай і целам як прафесіяй.

**У Маладзечне ў вучэбным цэнтры "Сфера прыгажосці" можна атрымаць прафесію касметыка чацвертага і пятага разрадаў, спецыяліста па доглядзе за тварам і целам. Заняткі праводзіць выкладчык з медыцынскай адукацыяй касметык з досведам вышэйшага разраду Вольга Копач. Яе выпускнікі паспяхова працуюць у салонах і касметычных кабінетах Мінска і рэгіёна, адзначаюцца высокім узроўнем навучання.**

### Касметык і касметолаг: чым адрозніваюцца

Касметык – спецыяліст без абавязковай медыцынскай адукацыі, які аказвае бытавыя паслугі ў СПА-салонах эстэтычнай накіраванасці для здаровай скуры твару, шыі, дэкальтэ. Пры гэтым выкарыстоўваюцца **медыцынскія сродкі:**

- Гігіенічная чыстка.
- Скрабіраванне.
- Гігіенічны, амаладжальны і аднаўленчы масаж твару, масаж кісцяў рук і ступняў ног.
- Спажыўныя маскі.
- Пілінгі.
- Абгортванні.
- Касметычны макіяж.

Таксама касметык робіць механічную эпіляцыю, дэпіляцыю галёнак касметычнымі сродкамі. Можа выкарыстоўваць апаратныя метады догляду, напрыклад, гігіенічная чыстка пры дапамозе ўльтрагукавога апарата. Таксама валодае асновамі дыеталогіі для паляпшэння скуры.

Касметолаг – доктар з вышэйшай медыцынскай адукацыяй, які займаецца дыягностыкай і лячэннем скуры, можа прымяняць медыцынскія прэпараты, лекі.

# У смаргонскім музеі ўспаміналі знакамітых землякоў

СМАРГОНЬ

**Аляксандр Шыдлоўскі і Віктар Роўда. Анатоль Бяляўскі і Ала Клемянок. Уладзімір Церабун і Уладзімір Някляеў. У Смаргонскім краязнаўчым музеі прыгадалі гэтыя вядомыя імёны на імпрэзе, прысвечанай землякам-юбілярам.**

115 год, прыгадалі вядучыя, споўнілася сёлета з дня нараджэння **Аляксандра Дзяругі** – самадзейнага музыканта, які звязаў свой лёс са Смаргоншчынай. Прафесійнай адукацыі музыкант не меў, але іграў на гітары, цымбалах, балалайцы, магдаліне. Сёння ў Смаргоні ёсць вуліца Аляксандра Дзяругі і мемарыяльная дошка, выкананая яшчэ адным таленавітым смаргонцам – Уладзімірам Церабуном.

Аўтар вядомай беларускай песні "Колькі ў небе зор" Аляксандр Шыдлоўскі нарадзіўся на тэрыторыі сённяшняга Смаргонскага раёна ў вёсцы Мінкі 105 год таму.

Грамадска-палітычную дзейнасць ён спалучаў з музычнай і літаратурнай творчасцю. Аляксандр Шыдлоўскі – ганаровы грамадзянін Смаргоні і Гродна. Песню "Колькі ў небе зор" выканала **Тамара Ваўчанкова**.

А ведаеце каго са смаргонцаў за мяжой і на радзіме называлі пастар, доктар і артыст? Віктара Роўду. Ён нарадзіўся ў Смаргоні ў 1921 годзе ў сям'і мясцовага святара. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю, літоўскую дзяржаўную кансерваторыю і Віленскі медыцынскі інстытут па спецыяльнасці "хірург".

Працаваў хормайстрам і дырыжорам Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Беларусі, кіраўніком акадэмічнага хору беларускага радыё і тэлебачання, выкладаў у акадэміі музыкі. У апошнія гады шмат уласных грошай ахвяраваў на храм у Смаргоні, дзе некалі служыў яго бацька.

Гледачы паглядзелі фрагмент фільма "Мая васьмідзясятая восень" пра жыццё і творчасць таленавітага смаргонца.

Уладзімір Някляеў. Паэт, палітык, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, лаўрэат шэрагу літаратурных прэмій. Сёлета 11 ліпеня ён святкаваў сваё 70-годдзе. Супрацоўнікі музея падрыхтавалі выставу кніг земляка, прыгадалі яго дасягненні. Уладзімір Някляеў – аўтар слоў шматлікіх беларускіх песень. Адну з іх, "Гуляць дык гуляць", выканаў спявак Максім Пашук.

**А пасля надышоў той час, калі выступалі самі юбіляры.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мастак, скульптар, музыкант Уладзімір Церабун.

Паэтка і журналістка Ала Клемянок нарадзілася ў Маладзечне. Тут вучылася ў сярэдняй школе №3, працавала на заводзе "Электрамодуль". Паэтка прыгадала, што любоў да беларускай мовы ў яе з дзяцінства. З таго часу, калі гадавалася ў вёсцы ў бабулі, якая размаўляла толькі па-беларуску.

– Для мамы сапраўдная трагедыя была, – успамінала паэтка. – Мяне трэба ў школу ў Маладзечне аддаваць, а я ні слова па-руску не разумею. А апошняя беларускамоўная школа ў Маладзечне на той час зачынілася.

**Да рускай мовы дзяўчынка прывыкла хутка. А беларускую, як ёй падавалася, ужо і забываць пачала, стала пісаць рускія вершы.**

А тут у яе жыцці з'явіўся таленавіты гісторык, на той час дырэктар музея ў Маладзечне **Генадзь Каханоўскі**, які параіў пісаць па-беларуску. З таго часу і да сённяшняга дня з-пад пяра творцы выходзяць вершы на роднай мове.

Ала Клемянок не толькі складае вершы. Яшчэ піша музыку. На імпрэзе яна праспявала песню "Птушка вечнасці – душа" на словы паэта **Мар'яна Дуксы**. Ён, дарэчы, таксама жыве на Смаргоншчыне, у вёсцы Солы.

Ісціну пра тое, што таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім пацвердзіў Уладзімір Церабун – мастак, скульптар, музыкант, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Шмат скульптур, зробленых майстрам, упрыгожваюць родны горад. У тым ліку і вядомая "Мядзведжая акадэмія".

У свой час Уладзімір Церабун скончыў школу №1 у Смаргоні. Тут, дарэчы, ён вучыўся ў адным класе і сядзеў за адной партай з Уладзімірам Някляевым.

Па словах скульптара, на музычных інструментах ён цяпер іграе не часта. Але для прысутных ён усё ж выканаў музычныя творы на балалайцы.

Віншавалі вядомага скульптара не толькі вядучыя. На імпрэзу з цёплымі пажаданнямі і словамі падзякі за прыгожыя скульптуры ў родным горадзе прыйшлі вучні першай школы.

Карціны Уладзіміра Церабуна аздабляюць музей у Смаргоні. А побач творы яшчэ аднаго мастака Анатоля Бяляўскага. Сёння ён жыве ў Мінску, але пра малую радзіму, Смаргоншчыну, не забывае. Тут у раннім узросце пачаў займацца лепкай і маляваннем. Сёння ў творчасці мастака шмат прац, прысвечаных Смаргоншчыне і яе жыхарам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Усталявалі інфармацыйны стэнд ля латыгальскай царквы

ВІЛЕЙКА

**26 лістапада ля латыгальскай царквы на Вілейшчыне ўсталявалі інфармацыйны стэнд.**

Мерапрыемства зладзілі сябры таварыства "Ахова помнікаў Беларусі" імя **Аляксея Лужынскага** і кіраўнік таварыства **Дзяніс Канецкі**. Акрамя таго ініцыятыву падтрымаў краязнаўца, пісьменнік і гісторык **Аляксандр Плавінскі**, які сам паходзіць з Латыгалі. Ён стаў аўтарам тэксту і спонсарам.

На працягу некалькіх гадоў сябры таварыства ладзяць падобныя праекты. Усталяванне інфармацыйнага стэнда ля латыгальскай царквы – ужо 12-ы па ліку праект на Вілейшчыне.

Нягледзячы на дрэннае лістападаўскае надвор'е, на мерапрыемства прыйшло шмат людзей. Акрамя мясцовых жыхароў прыехалі неабыякавыя да гісторыі людзі з Мінска, Маладзечна, суседняй Вязыні. Былі таксама госці з Украіны.

– Я вельмі ўдзячны ўсім, хто прымаў удзел ва ўсталяванні стэнда і спадзяюся на тое, што работа па захаванні гістарычнай спадчыны нашай малой радзімы, Вілейшчыны, будзе працягвацца, – расказаў журналістам "РГ" Аляксандр Плавінскі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



**Спатрэбілася менш за гадзіну, каб усталяваць інфармацыйны стэнд. Фота забяспечанае Аляксандрам ПЛАВІНСКІМ.**

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна**
**могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**☎166**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by Тэлетыдзень ТРАНСПАРТ

*Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!*



**Вечерний Бобруйск**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ГАЗ-53, бартавы. Т. (8-029) 5526811, (8-029) 9149332.
- Гольф 3, 1994 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-405, 1995 г.в, 1,8 бензін, седан, техагляд, зімовыя шыны, добры стан. Т. (8-044) 5596932.
- Аўташыны зімовыя, 2 шт. (Белшына R15 205/65). Т. (8-033) 3985912.*
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Гума R17 235/60 зіма, выдатны стан. Т. (8-029) 5519902.*
- Гума зімовая з дыскамі, R 15. Т. (8-029) 3064266.
- Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## ПАДЗЯКА

Хачу выказаць словы вялікай удзячнасці свайму ўчастковаму тэрапеўту **Анастасіі Міхайлаўне Пупко.** У сувязі з траўмай я не магу хадзіць у паліклініку, і доктар прыходзіць да мяне сама. Заўсёды ветлівая і культурная, зразумела і падрабязна раскажа, як прымаць лекі. Я хачу пажадаць ёй здароўя, шчасця і поспехаў у нялёгкай працы доктара.

**Жыхарка Маладзечна**
**Яўгенія ДЗЯНІСІК.**

Филиал ПУ "**Молодечногаз**"
сдаёт
в аренду
**помещение СТО и мойку**
по адресу
***г. Молодечно, ул. Нагорная, 6***
Тел. (80176) **55-26-96**
Филиал ПУ "Молодечногаз" УНП 100008077

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 1 паверх. Т. (8-033) 6333225.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2520004.*
- 3-пакаёвая кватэра з гаражом у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 6259734.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж ГБК "Ізбіно". Т. (8-029) 5761877.
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом у в. Кражына Валожынскага раёна з гаспадарчымі пабудовамі, участак 25 сотак, 150 м ад рэчкі Заходняя Бярэзіна, побач лес, 80 км ад Мінска. Т. (8-029) 6618854.
- Дом у Маладзечне. Т. (8-029) 2608541.*
- Пабудова ў цэнтры Валожына плошчай 30 кв. м. Тэрмінова! Кошт 28000 рублей. Торг да месца. Т. (8-044) 5660669.

### МЯНЯЮ

- 1,5-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую па вул. Ясінскай у Маладзечне, 3 паверх 5-павярховага дома, жылая плошча 18,9 кв. м, прыхожая 10,33 кв.м, кухня 6,6 кв.м, лоджыя 6 м. Усюды шклопакеты. Кватэра ў добрым стане. Т. (8-0176) 738233, (8-029) 1605944.*

### ЗДАМ

- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з санвузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з санвузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад.Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне.ІП Суднікові В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Выраб фрэзерных, гравіравальных работ станком з лічбавым праграмным упраўленнем (ЧПУ) на любым матэрыяле. ІП Войніч В.Я. УНП 691509741. Т. (8-029) 2250124, (8-033) 3828008.
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамока напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- установка и продажа стекол
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
**Наличный и безналичный расчёт**
**АВТОЗАПЧАСТИ в наличии и под заказ**
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

**АККУМУЛЯТОРЫ**
- для автомобилей
- мотоциклов
- источников питания
- сигнализаций
- лодок

***ПРОДАЖА, ЗАРЯДКА аккумуляторов, ДИАГНОСТИКА с выдачей распечатки и справки***
- моторные и индустриальные масла
- смазки
- реагент AdBlue разливной
- шины
- сварочная проволока
- шпатлёвка
- антифризы
- запчасти к иномаркам

***ПОКУПАЕМ ОТРАБОТАННЫЕ АККУМУЛЯТОРЫ***

Тел. **(0176) 58-12-48, (029) 63-63-166**

ООО «Батрикс» УНП 691853243

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

**СТО «Выбор-Сервис» РЕМОНТ**
**МИКРОАВТОБУСОВ,**
малотоннажных
**ГРУЗОВИКОВ**
и коммерческого **ТРАНСПОРТА**
грузоподъёмностью до 5 тонн.
*Высота ворот 3,5 метра.*
Т. (8-0176) **55 11 11**
МТС (8-029) **571 76 67**
ЧТУП «Выбор-Сервис» УНП 190794934

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах

**Апошнім часам гістарычнай праўды раскрываецца шмат, але далёка не ўся. Таму, пакуль ёсць яшчэ жывыя сведкі тых далёкіх і трагічных часоў, трэба, не губляючы часу, запісваць і абнародаваць іх праўдзівыя расповеды пра сталінскія рэпрэсіі і жахі апошняй вайны.**

Вёску Мардасы і яе жыхароў таксама не абышоў бокам усебеларускі трагізм мінулага стагоддзя.

Мой субяседнік **Іосіф Дарожка**, карэнны жыхар гэтай вёскі, распавёў мне вельмі шмат цікавых эпізодаў як са свайго жыцця, так і з жыцця аднавяскоўцаў.

Нарадзіўся Іосіф Пятровіч яшчэ пры панскай Польшчы ў 1931 годзе. Добра памятае той неспакойны ў гэтых мясцінах час, бо вёска яго знаходзілася на савецка-польскім памежжы. Адна польская стражніца размяшчалася ў вярсце на ўсход ад Мардасоў, у Батурыне – другая, на захад ад вёскі за дзве вярсты, пад Панышамі.

Вакол і ў саміх памежных вёсках было шмат савецкіх лазутчыкаў, якія агітавалі насельніцтва супраць польскай улады. Яны апісвалі шчаслівае жыццё людзей у Савецкім Саюзе. Падаўшыся за мяжу па абяцаны бальшавікамі рай і шчасце, амаль што ўсе дамоў ужо ніколі не вярнуліся. У бальшавіцкія Панышы пайшоў і таксама не вярнуўся назад і яго бацька Пётра Бохан, які працаваў памочнікам каваля ў лукавецкага пана Бароўскага. Але давайце пра ўсё па парадку.

### Пра жыццё Пётры Бохана

Сам Пётра Бохан быў не з тутэйшых, а дзесьці з-пад Шыпкоў, за вёрст 15 ад Мардасоў. Ён быў круглай сіратой і гадаваўся ў сям'і старэйшага бацькавага брата. Свайго бацьку Пётра памятаў дрэнна, ведаў яго больш са слоў сваёй маці. Петрусю не было і шасці гадкоў, калі ў 1914 годзе ягоны бацька быў мабілізаваны ў расійскае войска і накіраваны на вайну з немцамі, на якой прапаў без вестак. Да 13-гадовага ўзросту Петруся гадавала адна маці. А ў 1921 годзе, пасля смерці маці ад тыфу, які панаваў тут у той час, застаўся круглай сіратой. Але яго забраў да сябе на выхаванне родны дзядзька.

Час ішоў. Узмужнелы, працавіты юнак не стаў сядзець на дзядзькавым карку. І ўжо ў 17-гадовым узросце падаўся шукаць сваёй долі ў Лукавец, да паноў Бароўскіх, пра якіх людзі гаварылі толькі добрае.

### Добрыя словы пра паноў Бароўскіх

Паны Бароўскія да сялян адносіліся са спагадай. Ніколі не крыўдзілі ў заробку, давалі магчымасць працавітым і кемлівым сялянам развярнуцца ў сваёй гаспадарцы. Давалі нават такі-сякі прытулак бяздомным.



Фота забяспечанае Алесем РАТКЕВІЧАМ.

**Іосіф Дарожка, карэнны жыхар вёскі Мардасы.**

Уладкаваўшыся ў Лукаўцы на працу ў кузню памочнікам каваля, Пётра таксама не застаўся без даху над галавой. Пры кузні была невялікая каморка, якая мела прыстойны і абжыты выгляд. Вось яна і стала жыллём для хлопца. Па заведзеных у паноў Бароўскіх правілах, кожная сялянская сям'я, незалежна ад яе складу, якая працавала ў іх, павінна была абзаводзіцца падсобнай уласнай гаспадаркай, а каровай у самую першую чаргу.

Ранняе самастойнае жыццё прымусіла і Пётру Бохана завесці сваю гаспадарку. Ужо праз год-паўтара ў яго жыцці ўпершыню з'явілася асабістая ўласнасць – кароўка.

Для тых, хто не меў сваіх гаспадарчых пабудоў, каровы іх "кватаравалі" і харчаваліся ў кароўніку разам з панскімі. А вось улетку сялянскі статак чамусьці пасвіўся асобна ад панскага.

Пётрава кароўка "прыпісалася" да галяноўскага кароўніка, які належаў малодшаму пану з Бароўскіх – Ігнасю. Руплівы Пятрусь пасля працы ў кузні падпрацоўваў яшчэ ў пана Ігнася, падвозіў з лукавецкага бровара брагу на кароўнік у Галянова, на якім стаяла і яго карова.

Для маладога адзінокага хлопца ў той час гэта было вялікім жыццёвым дасягненнем. На яго пачалі звяртаць увагу маладыя дзяўчаты як на прыгожага і дужага кавалера. А бацькі тых дзяўчат заўважалі ў ім працавітага, не па гадах сур'ёзнага ды самастойнага дзецюка і перспектыўнага для іх зяця.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Працяг будзе.**

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Фота з 1975-га. Пазнай сябе



Фота Аляксандра САЛАГУБ.

Каго вы тут пазнаяце?

Здымак зроблены прыкладна ў 1975-м годзе ў двары маладзечанскага дзіцячага садка №5. Ці пазнае хто тут сябе, або свайго сябра ці сваяка?

Званіце, пішыце ў рэдакцыю. Мы рады будзем пазнаёміцца з вашымі ўспамінамі і аповедамі.

Здымак прынёс нам у рэдакцыю фотааматар **Аляксандр Салагуб**. Яго сын Сашка ў 4-х-5-гадовым узросце сфатаграфаваны тут са сваімі сябрамі.

Аляксандр Салагуб-старэйшы кажа, што яны з жонкай Кацярынай аддалі сына ў садок. Бацькам хацелася, каб сын прывучаўся таварыскасці, жыць у калектыве.

Жылі Салагубы ў старым польскім будынку на тэрыторыі сённяшняга бальнічнага гарадка ў 11-метровай кватэрцы. Непадалёк ад садка. Дом той не захаваўся да нашага часу.

А вось ў будынку садка сёння месціцца дзіцячы цэнтр творчасці "Расток". Гэта вуліца Буйло. Дом, узор канструктывізму – авангарднага архітэктурнага накірунку, пабудаваны ў міжваенны перыяд, як жылы дом для камандзіра 86-га польскага пяхотнага палка. Пасля вайны, кажуць, тут жыў Сяргей Прытыцкі – першы сакратар Маладзечанскага аблвыканкама. Пасля яго аддалі дзецям.

**Мікола ГАЙДУК.**

КАЛЯНДАР

### 2 СНЕЖНЯ

**240 гадоў** з дня нараджэння Анёла Доўгірда (1776 – 1835), беларускага філосафа, логіка і псіхолага.

### 3 СНЕЖНЯ

**50 гадоў** назад (1966) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мінск узнагароджаны ордэнам Леніна.

### 7 СНЕЖНЯ

**1506 год.** У Гродне вялікі князь літоўскі Жыгімонт І Стары выдаў прывілей, які замацоўваў юрыдычныя нормы, запісаныя ў прывілеях асобным землям, валасцям і гарадам Вялікага Княства Літоўскага.

**1926 год.** У Вільні выйшаў першы нумар газеты Narodny zwon (выдавалася да 30 сакавіка 1927 года).

### 8 СНЕЖНЯ

**90 гадоў** з часу прыняцця (1926) пастановы Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Савета Народных Камісараў БССР аб далучэнні Гомельскага і Рэчыцкага паветаў былой Гомельскай губерні РСФСР да Беларусі.

**1926 год.** Памёр Кастусь Бялецкі, грамадска-палітычны дзеяч.

**25 гадоў** назад (1991) у Белавежскай пушчы кіраўнікамі Беларусі, Расіі і Украіны падпісана пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

**50 гадоў** з часу ўводу ў эксплуатацыю (1966) 2-й чаргі электрыфікаванага ўчастка Беларускай чыгункі Мінск – Маладзечна.

**190 гадоў** назад у вёсцы Новая Жосна Вілейскага павета (цяпер Мядзельскі раён) нарадзіўся Юльян Ляскоўскі (псеўданім Бандурыст Карабіч, 1826-1888), пісьменнік, журналіст. Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду герба "Кораб", адсюль і псеўданім. Пачатковую адукацыю атрымаў у адной з бернардзінскіх школ, мабыць у Будславе. Працаваў канцылярыстам у Вільні. Удзельнічаў у вызваленчым руху 1848 года, таму ў 1849-м вымушаны быў эмігрыраваць, перажыў шмат нягод. Нейкі час жыў у Лондане, там у 1855 годзе напісаў паэму "На чужой старане". Пасля агульнай амністыі ў 1860 годзе вярнуўся з эміграцыі і пасяліўся ў Вільні, дзе знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1861 годзе удзельнічаў у антыўрадавых дэманстрацыях. Тады за свой кошт у друкарні Адама Кіркора выдаў кнігу паэтычных твораў на польскай мове "Беларускі бандурыста. Зборнічак вандроўны". Аўтар аповесці "У Амерыку па золата" (1888) пра цяжкае жыццё сялян эмігрантаў з Польшчы і Беларусі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# “Гэта нармальна, калі чалавек прыбі

## Як атрымаць субсідыі на жыллё, чаму павысілася камуналка ў інтэрнатах і якая

МАЛАДЗЕЧНА

*Заканчэнне. Пачатак у №48.*

**“Круглы стол” па тэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі адбыўся ў рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты” 17 лістапада.**

На ім удзельнічалі начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечанскага райвыканкама **Сяргей Бохан** (СБ), намеснік дырэктара УП “Камунальнік” па жыллёвых пытаннях **Алег Глаткі** (АГ), начальнік аддзела субсідзіравання і прыватызацыі жылля УП “Камунальнік” **Сяргей Ракіта** (СР) і жыхар аднаго з маладзечанскіх інтэрнатаў, забудоўшчык РІЗ “Фестывальны” **Сяргей Вярбіцкі** (СВ).

**“РГ”: – Што змянілася для жыхароў з перадачай інтэрнатаў “Камунальніку”?**

**АГ:** – Мы падтрымліваем кантроль: вахцёр – у вялікім інтэрнаце, у невялікіх – загадчык на некалькі адрасоў. Пры пераглядзе дагавораў найму жыхар ці жыве, калі мае законнае абгрунтаванне, ці адсяляецца.

**СБ:** – На прадпрыемствах раней бурна існавала практыка: “харошы работнік, палажана шэсць – дадзім болей”. А пад “Камунальнікам” атрымліваюць столькі, колькі палажана. З іншага боку, жыхары больш абароненыя, таму што ў дакументах наведзены парадак. Становучае тое, што “Камунальнік” паляпшае стан інтэрнатаў, але фінансава гэта для іх вельмі складана.

**АГ:** – За апошнія пяць год на маёй памяці адзіная арганізацыя, якая пры перадачы жылфонду выдаткоўвала сродкі на яго рамонт, – чыгунка. І гэта была сума, якую сабралі з адлічэнняў жыхароў на капрамонт.

**СБ:** – У доўгатэрміновых планах у нас перадача трох інтэрнатаў ад ЗМК. Застаецца адзін інтэрнат ЗПМ. Два ад “Будаўніка-69” і два “Юноны”. “Камунальнік” цяпер загнаны ў няпростую сітуацыю. Але гэта добрая справа. Калі-небудзь Алег Аляксеевіч прыгадае, як ён гэтыя інтэрнаты прывёў у належны стан.

*Удзельнікі абмеркавалі тое, што цяпер самі жыхары будуць плаціць за працу вахцёра. Некаторых гэта абурае: раней плацілі за жыллё адну суму, а цяпер яшчэ нейкі дадатак. Але некаторыя разумеюць, асабліва тыя, каму даводзілася жыць без вахцёра і сутыкацца з бойкамі і іншымі непрыемнасцямі ў інтэрнаце.*

*Алег Глаткі падкрэсліў, што ў Брэсцкай вобласці жыхары аплачвалі за працу вахцёра ад 2013 года, а “Камунальнік” дацягнуў да 2016. Далей цягнуць проста няма магчымасці.*

### Ці падселяць новых жыхароў

**“РГ”: – Напрыклад, у работніка ЗПМ быў блок у інтэрнаце. Ці могуць яму кагосьці падсяліць?**

**АГ:** – У яго быў дагавор на пяць год, з якіх ён пражыў тры. За наступныя два гады мы правяраем яго дакументы. На момант перазаключэння дагавора ён павінны пацвердзіць права там жыць. Калі ў яго абгрунтавання няма, то высяляюць. Калі ёсць, ён не парушаў правілаў жыхарства, своечасова плаціў, то застаецца.

Але калі метры дазваляюць, то могуць падсяліць іншага чалавека.

**СВ:** – Жыву ў інтэрнаце, што належаў “Спадарожніку”. Хочацца, каб якасць працы вахцёраў была адпаведнай службовым інструкцыям. Не так, што чалавек прыйшоў і сядзіць. І як будзе налічвацца аплата за вахцёра?

**АГ:** – Нашы фактычныя затраты – заробак вахцёра. І мы прыйшлі да таго, што гэта будзе кампенсацыя нашых расходаў. Прыкладна гэта будзе 4-6 рублёў з пакоя. І мы разлічвалі, што калі паслугу аплачваеце, то будзеце патрабаваць якасць.

Мы перапрацуем службовыя інструкцыі вахцёраў, магчыма, увядзём журнал уліку.

**СВ:** – Што ў нас змянілася з “Камунальнікам”. Добры рамонт і так быў. Усталявалі пажарную сігналізацыю.

**АГ:** – Гэта самы беспраблемны для нас інтэрнат, і “Спадарожнік” пастараўся яго добраўпарадкаваць. І не ў апошнюю чаргу таму, што там газавыя пліты. Параўнаць з электраплітой – і ў часе прыгатавання, і ў іншым. Тады ставяць у блоку мультыварку і іншае. Пастаянна вычышчаем. У інтэрнаце з газам, нават калі людзі ў блоку ставяць электраабсталяванне, яно не настолькі адчуваецца.

Аплата за працу вахцёраў – крайні крок, якога доўга не чакалі. І пакуль не плануецца ўводзіць для жыхароў інтэрнатаў дадатковыя платы. Сур’ёзныя вынікі дасць толькі эканомія – выключаць за сабой ваду і святло.



У цэнтры горада маладзечанцы дачакаліся добраўпарадкавання, а вось у камунальных справах працы



Начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечанскага райвыканкама Сяргей Бохан.



Жыхар аднаго з маладзечанскіх інтэрнатаў, забудоўшчык раёна індывідуальнай забудовы “Фестывальны” Сяргей Вярбіцкі.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Начальнік аддзела субсідзір а ватызацыі жылля УП “Камунал Ракіта.

**“РГ”: – Як вырасла плата за інтэрнат пасля перадачы “Камунальніку”?**

**СВ:** – Разы ў два вырасла. Гады два таму плацілі каля 27 рублёў, цяпер каля 60.

**АГ:** – Трэба ўлічваць змяненне тарыфаў. Больш, чым законам прадугледжана, мы не бяром. Цяпер усе жыхары краіны аплачваюць 25-30% таго, што спажываюць. Астатняе датуе дзяржава. Камуналка і ў кватэрах вырасла. А ўрад папярэджвае, што ў 2018 годзе будзе 100% аплата камуналкі.

### Як праверыць, што вы правільна плаціце за прыватызацыю

**“РГ”: – Як прайшоў працэс прыватызацыі?**

**СР:** – Яна закончылася 1 ліпеня. Усе, хто хацеў, прыватызавалі. Акрамя ахвотных прыватызаваць памяшканні ў інтэрнатах.

Пасля першага толькі двое прыйшлі ўдакладніць, ці змогуць прыватызаваць. Звычайна звярталіся вечарам, часта пасля васьмі вечара, нават каля апоўначы. Цяпер галоўнае для тых, хто прыватызуе жыллё, не забыць пра сваю адказнасць. Рашэнне выканкама аб прыватызацыі дзейнічае цягам года. Каб яно было рэалізаванае, неабходна аплаціць 10% ад цаны прыватызацыі памяшкання і заключыць натарыяльны дагавор куплі-продажу – аформіць першую фазу пераходу права ўласнасці на жыллё.

> **Ёсць скаргі ад жыхароў, якія аплацілі 10% і вырашылі, што на гэтым усё. З іх пачалі спаганяць плату за камерцыйнае выкарыстанне жылля. І пытаюцца – а чаму мы плацім.**

Просім паглядзець памятку з пакрокавым апісаннем патрэбных дзеянняў.

Да 1 ліпеня былі заявы ад ахвотных прыватызаваць інтэрнаты, усім патлумачылі, што гэта законам не прадугледжана.

Былі пытанні з зарэгістраванымі. Напрыклад, у кватэры зарэгістраваныя чатыры чалавекі. Тры ёсць, а чацверты ці ў ад’ездзе, ці ў вышуку, ці яшчэ недзе. А без яго мы не мелі права даваць дазвол на прыватызацыю.

**СБ:** – Каля 8-9% жылля засталося неприватызаваным.

**СР:** – Грамадзяне, якія былі нязгодныя з цаной прыватызацыі, маглі заказаць незалежную ацэнку рынкавай ацэнкі. Калі яна паказвала меншую лічбу, то прыватызавалі па рынкавай цане з вяртаннем грошай, затрачаных на ацэнку.

Такіх было шэсць выпадкаў. Але гэту працэдуру трэба паспець зрабіць, пакуль дзейнічае рашэнне выканкама.

**СБ:** – Такія выпадкі адбываліся, калі жыллё перадавалі ад староннiх арганізацый, і ўсё завязанае было на прынцыпах бухгалтарскага ўліку. Часам было вялікае пытанне, чаму менавіта па такой балансавай цане быў гэты дом. Чаму аналагічная кватэра мае меншую цану? І пераацэнка магла даць выгаду ў 10 тысяч рублёў.

**“РГ”: – Пытанне ад чытача: “Я штомесяц пералічваю грошы за прыватызацыю. Як праверыць, што яны залічваюцца, як трэба?”**

**СР:** – Пры неабходнасці можна звярнуцца ў наш аддзел на Ясінскага, 25. І мы праверым усе плацяжы. Таму што зрэдку ў банку могуць няправільна напісаць прозвішча, напрыклад. Мы можам усё ўдакладніць.

**СБ:** – Цяпер будзе прасцей. У вобласці мы ў гэтым адны з першых. У нас усё будзе афармлена праз сістэму АРІП, ужо пачынаем рабіць пробныя плацяжы, і хутка можна будзе плаціць

# ...рае сам за сабой"

## ...цана за квадратны метр у новых дамах



Фота domotel.by.

...яшчэ хапае.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

...вання і пры-
...ьнік" Сяргей



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Намеснік дырэктара УП "Камунальнік" па жыллёвых пытаннях Алег Глаткі.

за прыватызацыю такім чынам. Цягам месяца плануем запусціць.

**"РГ": – Ці могуць жыхары прыватных дамоў, якія не абслугоўваюцца "Камунальнікам", заказаць прыватную паслугу? Напрыклад, абкасіць двор?**

**АГ:** – Дамы індывідуальнага характару абслугоўваюць самі ўласнікі. Гэта іх абавязак. Паслугі па абкошванні ці рамонце такіх дамоў мы не прапануем, таму што мы эксплуатуючая арганізацыя. І наша задача – эксплуатацыя фонду, які ў нас на абслугоўванні.

А на сёння ў нас нават не хапае рэсурсаў і на тое, што абслугоўваем мы.

**"РГ": – А па ўборцы лесвічных пляцовак?**

**АГ:** – Раней гэта паслуга ўваходзіла ў тэхабслугоўванне. Цяпер яе аказваюць на канкурэнтнай аснове. Ёсць у горадзе кааператывы, якія наймаюць клінінгавыя арганізацыі. Могуць прыбіраць па графіку самі.

**СБ:** – З жыхарамі праводзяць сход і пытаюцца, будуць яны бясплатна па графіках прыбіраць, ці ад "Камунальніка" за асобную плату. Большасць прыбірае самастойна.

**АГ:** – Я за тое, каб прыбіралі самі.

> **За апошнія гады людзі навучыліся шмат скардзіцца. І нейкі сацыяльны эгаізм моцна праяўляецца. Калі бачаць, што нехта псуе дзіцячую пляцоўку, хутчэй за ўсё, пройдуць міма.**

Прывыклі, што маё заканчваецца, як зачыняюцца дзверы. Але пад'езд – таксама наша, агульнае. Гэта правільна, калі чалавек прыбірае за сабой.

### Ці будуць чысціць дарогі ў "Фестывальным"

**СВ:** – Як у раёне індывідуальнай забудовы "Фестывальны" вывозяць смецце? Сусед казаў, у яго пакет месяц стаяў каля дарогі.

**АГ:** – Вываз смецця аплачваецца ў любым выпадку. Прынцып такі: ты плаціш, дзе прапісаны, а вывозяць за табой, дзе б ты ні быў. Я запішу гэта пытанне. Рэдка такія пытанні паступаюць.

**СВ:** – Ці будуць у "Фестывальным" зімой чысціць дарогі?

**СБ:** – Чысціцца будзе аднназначна. Пытанне толькі, хто. Калі дарогі "Камунальніка", то прыбіраюць яны ў межах выдзеленых бюджэтных сродкаў. Калі не, то УКБ абавязанае да моманту здачы ў эксплуатацыі.

### Пытанні ад чытачоў

**1. Ці ёсць планы пабудаваць тратуары на ўчастку дарогі па вуліцы Таміліна ад паліклінікі да ЗАГСа?**

**АГ:** – Пакуль ён не ўяўляе нейкай праблемы. Планаў няма. Аварыйныя ўчасткі мы рамантуем заўсёды. Ёсць шмат дваровых тэрыторый, якія тэрмінова трэба зрабіць.

**2. Ці лічаць улады горад дастаткова асветленым не ў цэнтры горада?**

**АГ:** – Ёсць графікі ўключэння і выключэння святла. Сёлета іх змясцілі на паўгадзіны. На многіх вуліцах уключаем праз 1-2 ліхтар. Калі не гарыць там, дзе павінна, можна пазваніць у аварыйную службу 115 і паведаміць.

Абавязкова асветленыя школы, садкі, сацыяльныя аб'екты, пешаходныя пераходы.

**3. Калі плануюць капітальны рамонт даху па вуліцы Крынічнай, 23?**

**АГ:** – Капітальны не плануецца. Падтрымліваецца бягучым рамонтам у належным стане. Гады два таму пасля добрага дажджу паступала каля 20 заявак, а да канца дня даходзіла да 80. А цяпер 2-3 заяўкі, а да канца дня – 5-7. За дахі мы змагаемся ў першую чаргу.

**СБ:** – У планах Крынічная, 27. Па дахах мы сёлета два дамы ў дадалі.

**4. Ці будуць новыя атракцыёны ў парку?**

**АГ:** – Мне падаецца, за апошнія гады мы і так падцягнуліся. Мы наймаем дадатковыя забавы, напрыклад, цір.

**5. Калі добра заасфальтуюць вуліцу Меліярацыйную?**

**АГ:** – Такія вуліцы мы грэйдзіруем. А асфальт пакласці не можам.

**6. Якая цана квадратнага метра пры долевым будаўніцтве?**

**СБ:** – У Маладзечне будуюцца як недзяржаўная арганізацыя па Машэрава, 1, так і дзяржаўная па Вялікім Гасцінцы, 60-а, у планах па вуліцы Вольнай. У гэтых дамах прадугледжаныя два тыпы кватэр: для тых, хто стаіць на ўліку і што аддае арганізацыя па поўную цану. Для тых, хто на ўліку, цана па доме 60-а замест 750 долараў у эквіваленце 480. 20 метраў на чалавека.

Але на такое будаўніцтва адзіны від падтрымкі – жыллёвыя субсідыі.

**СР:** – Каля 20 чалавек атрымалі сёлета субсідыі на куплю жылля. Звычайна гэта маладая сям'я з двума дзецьмі.

Калі вы стаялі на ўліку па паляпшэнні жыллёвых умоў, не звярталіся па субсідыі, але мелі права, а пры куплі ці будоўлі жылля бралі не льготны крэдыт у банку, адносіцеся да маладой ці шматдзетнай сям'і, то дзяржава дапамагае пагасіць крэдыт. Калі льготны крэдыт – не.

Субсідыі атрымліваюць да здачы дома ці да здзелкі куплі-продажу, а фінансавая падтрымка – пасля будоўлі ці здзелкі куплі-продажу.

**7. Ці будуць уладкоўваць парк каля нова касцёла?**

**АГ:** – Іншых планаў акрамя падтрымкі належнага стану няма.

**8. Ці будуць абуладкоўваць другую частку парку?**

**АГ:** – Праект рэканструкцыі парку рэалізаваны на 100%.

**9. Якая чарга на кватэры і ўчасткі?**

**СБ:** – На пачатак года стаяла 11 600 толькі па горадзе, з раёнам 13 500. Кагосьці здымаем, але аднначасова ставім новага. Таму прыкладна такі ўзровень будзе захоўвацца. Паляпшэнне жыллёвых умоў ідзе толькі па дзяржзаказе, туды накіроўваюць тых, хто мае права на льготны крэдыт. Проста стаяць на ўліку недастаткова.

Каля 250 чалавек сёлета перайшлі на долевае будаўніцтва.

Першачарговае права на зямельны ўчастак маюць шматдзетныя сем'і.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@
yandex.by

---

Золотая мечта
ювелирная сеть

*Молодечно, Волынца, 7*

## Выбирая кольцо жене на Новый год, померьте её палец



### Не подойдёт – подумает, что для любовницы

**В преддверии новогодних праздников мужчины и женщины в "Золотой мечте" будто меняются местами. Если в другие месяцы чаще всего заглядывают женщины, то перед Новым годом за ювелирными подарками приходят мужчины.**

Часто Новый год становится для сильной стороны человечества толчком, чтобы кардинально изменить жизнь, поэтому именно в праздничную ночь многие решаю сделать предложение. В таком случае новогодняя ночь для девушек наполняется волшебством.

Мужчины чаще всего полагаются на вкус продавцов, даже размеры их пальцев. Конечно, специалисты могут дать совет; из разговора понять, что нравится избраннице, подобрать украшение, но лучше к покупке подойти более ответственно.

Прежде чем купить кольцо, измерьте размер пальца любимой. Это можно сделать с помощью ниточки или взять одно из колец второй половинки.

### Решил сделать сюрприз – в итоге чуть не развёлся

– Так однажды в преддверии Нового года в фирменный магазин "Золотая мечта" в Молодечно по Волынца, 7 пришёл мужчина, чтобы купить жене ювелирный гарнитур: серёжки и кольцо, – вспоминает заведующая магазином **Ирина Мисюра**. – Приятно было посмотреть, с каким трепетом выбирал подарок.

Как обычно, специалисты начали уточнять, что нравится супруге, попросили рассказать о ней более подробно. Через некоторое время нужный подарок был запакован. Проблема была в том, что точного размера пальца супруги мужчина не знал, выбирал на глаз.

– Насколько же я была удивлена, когда в первый день нового года мне позвонил этот мужчина, – рассказывает специалист "Золотой мечты". – Оказалось, что кольцо не подошло, супруга решила – это подарок для любовницы. Когда дело дошло до развода, позвонили мне, пришлось объяснять ситуацию, но это не помогло. Казалось, что в этот день мне позвонили все родственники этой семьи, чтобы я их помирила.

### Купить украшение – героический поступок мужчины

Милые женщины, девушки, если же вы получили кольцо меньшего размера, это не повод расстраиваться. Ювелир сможет молниеносно исправить ситуацию, а вот не испортить праздник, настроение и отношения под силу только вам.

– Представьте ситуацию по-другому. Подумайте, если бы вам пришлось выбирать строительный инструмент, запчасти к машине своего избранника. Думаю, не один метр нервов пришлось бы истратить. С первого раза не всегда можно купить нужное: возможно, купили бы не ту модель, не того производителя... – отмечает заведующая "Золотой мечты" Ирина Алексеевна. – Для мужчин поход в ювелирный магазин за подарком – героический поступок, особенно если учесть, что это первый раз. Цените это, а на ситуацию с размером через несколько лет вы будете смотреть с юмором.

**"Золотая мечта" – цените золотое отношение ваших близких.**




## А працэс ідзе

МАЛАДЗЕЧНА

“РГ” сумесна з фітнес-клубам “Тытан” запусціла праект “Зорка з трэнажоркі”. Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.

Ой, мяне на гэтым тыдні насмяшылі мае знаёмыя і знаёмыя маіх знаёмых.

Яны, аказваецца, чакалі кожны нумар газеты, каб паглядзець, ці заўважна я схуднела. Крытычным позіркам аглядалі ўвесь гэту выяву зверху старонкі і моршчыліся: ды ну, нешта не відаць…

Дык вось, праз два месяцы трэніровак я хачу сказаць: гэты здымак зроблены тады, у самым пачатку.

На сённяшні дзень сваю мэту ў 10 кілаграмаў я выканала.

І, ведаеце, я не заўважаю на сабе захопленых позіркаў. Відаць, каб гэта здарылася, трэба браць за другую дзясятку.

Працяг будзе. А ў бліжэйшых нумарах чакайце фотасправаздачу з залы.

**Наталля ТУР.**



НАВІНЫ

## Аб'явілі конкурс на стварэнне лагатыпу для “Смаргоні”

СМАРГОНЬ

Налета футбольны клуб “Смаргонь” будзе святкаваць 30-годдзе. З гэтай нагоды абвясцілі конкурс на распрацоўку юбілейнага лагатыпу для клуба, паведамляе афіцыйны сайт “Смаргоні”.

Лагатып будуць размяшчаць на афіцыйным сайце клуба, у групах клуба ў сацыяльных сетках і выкарыстоўваць у інфармацыйнай і камерцыйнай дзейнасці клуба.

Свае варыянты лагатыпу можна дасылаць на электронны адрас: fc_smorgon@mail.ru уключна да 15 снежня 2016 года.

## Адзіная перамога “Меліяратара”

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Прайшоў другі тур чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

26 лістапада “Ашмяны” дома саступілі “Беллакту” з Ваўкавыска 5:8.

У нядзелю ў Гервятах “Меліяратар” з Астраўца перамог Легенду-Віцязь” з Іўя 10:7. Па інфармацыі Гродзенскай гарадской федэрацыі футбола, пяць галоў у астраўчан забіў **Дзмітры Кузьмянкоў**.

“Мядзведзі” са Смаргоні дома прымалі “Навагрудак”. Гульня ішла мяч у мяч і завяршылася ўнічыю 5:5.

**Захар Захарэвіч** з “Мядзведзяў” – адзін з лідараў сярод бамбардзіраў чэмпіянату. Ён забіў 6 галоў.

## Мядзяльчане ўзялі срэбра на вобласці

МЯДЗЕЛ.

На мінулых выхадных ў Лагойску выявілі лепшыя мужчынскія каманды па валейболе Міншчыны. Тут адбываўся чэмпіянат вобласці.

Удала выступіла ў ім каманда Мядзельскага раёна. Яна заняла другое месца.

**Аддзел інфармацыі.**

# Наезніца Алена Белавус: нашы кабылы – гэта золата Палачанаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Кабыла Гвіяна гановерскай пароды ў суботу і нядзелю, 26-27 лістапада, разам са сваёй наезніцай Аленай Белавус упершыню ўдзельнічала ў міжнароднай выставе коней.**

Цяпер мы ведаем, што прыгажуня з Палачанаў заняла чацвертае месца і пакінула ад сябе ў захапленні і спецыялістаў, і гледачоў.

Алена Белавус расказала, што ад лёгкай і “паветранай” Гвіяны былі ў захапленні ўсе.

А мяне са сваёй выхаванкай Алена пазнаёміла напярэдадні, калі Гвіяна толькі рыхтавалася да першай у сваім жыцці выставы.

Цёмна-гнядая 10-гадовая кабыла Гвіяна – прыгажуня рэдкая. Высокая, 175 сантыметраў у карку, з тонкімі нагамі, такая ўся з сябе.

Але за моркву пагадзілася са мной пасябраваць.

– Гвіяна нават для сваёй пароды неверагодна вытанчаная, высокая, лёгкая. У яе вельмі добры характар. Яна паслухмяная, разважлівая, спакойная.

За гэтыя рысы характару Гвіяну і любяць шматлікія госці Палачанаў, якія прыязджаюць на выхадныя займацца верхавой яздой. Гвіяна працуе ў пракаце.

– Мы нават зэдлік спецыяльны зрабілі, каб забірацца на нашу прыгажуню, бо яе рост далёка не ўсім дазваляе без перашкодаў залазіць ёй на спіну.

Напярэдадні выставы, у якой Гвіяне давялося паказваць майстэрства выезду, канкуру, трохбор'я, у стойле яна стаіць у гуньцы (попоне), не так, як астатнія коні.

– Гэта для таго, каб яна крыху паліняла. Зімой у стойлах халадна, дык коні зарастаюць поўсцю як мядзведзі. А для выставы трэба, каб поўсць была кароткая, бліскучая. Таму мы Гвіяну два дні будзем рыхтаваць да выставы, як да конкурсу прыгажосці – манікюр, педыкюр, прычоска, абноўкі.

Коней гановерскай пароды ў Беларусі разводзяць толькі ў Палачанах. Гэта паўкроўная нямецкая парода.

У выставах пераважна ўдзельнічаюць коні і жарабцы.

Палачаны ж на міжнародную выставу вязуць кабылу.

На пытанне, чаму менавіта кабылу, Алена адказала: а кабылы – гэта золата Палачанаў. Бо жарабцоў купляюць, яны з'язджаюць, а кабылы застаюцца дома, нараджаюць новых чэмпіёнаў.

**Сёлета ў Палачанах адбыўся цуд. Кабыла нарадзіла двойню.**

– Калі такое здараецца, часта бывае, што кабыле робяць аборт або адно жарабя нараджаецца мёртвым ці хворым. У нас жа адбылося дзіва – абое жарабят здаровыя і дужыя. Растуць разам.

У апошнія гады конезавод у Палачанах, можна сказаць, перажывае адраджэнне.

Намаганнямі **Уладзіміра Пятрова**, Лены Белавус і эканаміста **Святланы Кайко** пра палачанскіх коней сталі даведвацца за мяжой.

– Нам нават прапанавалі скачкі на нашых палях праводзіць, маўляў, чаго дарэмна прастойваюць.

А ў Беларусі скачак няма ўвогуле. Не наша гэта. А ўявіце, як было б крута: пані і паненкі ў капялюшыках, стаўкі, коні прыгожыя.

Але адсутнасць скачак у Палачанах кампенсуюць іншымі мерапрыемствамі: рэгулярна праводзяцца дні дабрыні, дзе на конях могуць абсалютна бясплатна пакатацца дзеткі са шматдзетных, малазабяспечаных сямей.

Год таму Лена пры дапамозе сваіх сяброў-байкераў арганізавала ў Палачанах свята “Капыты і колы”.

– Такога раней нідзе не было, каб коні выступалі разам з матацыкламі. Але мерапрыемства ўдалося. Пераважна дзякуючы маім сябрам, якія гатовыя абсалютна бясплатна несціся куды заўгодна, нешта прыдумваць і арганізоўваць.

Летам Лена разам з сябрамі зладзіла паход на конях. Дайшлі з Палачанаў амаль да Маладзечна.



Фота Наталлі ТУР.

Гановерская кабыла Гвіяна ўпершыню прадстаўляла Палачаны на міжнароднай выставе ў Мінску.

– Я здзіўлялася, дзе ў коней убудаваны навігатар. Туды ішлі абсалютна па незнаёмым ім маршруце. А калі вярталіся назад, самі выходзілі на патрэбныя дарогі.

Лена прызналася, што коні насамрэч валодаюць тэлепатычнымі здольнасцямі.

– Колькі раз я толькі падумаю, што трэба змяніць тэмп хады, як конь адразу ці пераходзіць на больш хуткую хаду, ці спыняецца.

Напярэдадні новага года ў жывёл і наезнікаў шмат працы. Хутка пачнуцца дзіцячыя ранішнікі, дзе будуць задзейнічаныя коні.

– Так, – далучаецца да размовы эканаміст конезавода Святлана Кайко, – работы стала вельмі шмат. І гэта ж добра! Я калі прыйшла працаваць сюды, коней бачыла толькі здалёк, нават баялася, а папрацаваўшы з Ленай, ужо нават гатовая ездзіць вярхом. Муж сварыцца, калі я на рабоце затрымліваюся дапазна, кажа: вось і заставалася б начаваць разам з конямі. А як інакш? Калі і выставы, і пракат, і вяселлі, і продаж. А тут днямі ездзілі выбіраць кавалера нашым прыгажуням. У Ратамцы прапанавалі аднаго, які каштуе 500 000 еўра. Дык ён сам не вылязны, да яго трэба “нявесту” везці. Можна падумаць, нашы кабылы горшыя.

Не горшыя. Напрыклад, кабыла, якую купілі ў Палачанах, цяпер уваходзіць у склад алімпійскай зборнай Украіны.

Ды што тут казаць, калі пры штогадовай баніціроўцы, якую праводзяць у Палачанах, усім мясцовым коням спецыялісты надаюць клас “эліта”. Баніціроўка – гэта вызначэнне племянной каштоўнасці і прызначэння коней на аснове комплекснай іх ацэнкі.

Спецыялісты ацэньваюць працаздольнасць, экстэр'ер, якасць патомства. І па выніках праверкі надаюць коням другі, першы або клас эліта.

Палачанскія – нязменна элітныя.

А пасля таго, як Гвіяна вярнулася з выставы, Алена пачала зноў рыхтавацца да новых выстаў. Кажа, што цяпер такія выставы будуць з удзелам палачанскіх коней часцей:

– А чаго саромецца? Нам ёсць што паказаць!

**Наталля ТУР.**

СМАЧНА ЕСЦІ

## Салата “Лёгкая”

*Пекінская капуста, а можна ўзяць і белакачанную, кансерваваная кукуруза, кансерваваны тунец, свежы агурок, свежы памідор, сыр, алей (калі ёсць, то вазьміце аліўкавы), трохі лімоннага соку, соль.*

Пекінскую капусту нарвіце рукамі і пакладзіце на дно салатніцы. Калі будзеце браць белакачанную, то нашаткуйце дробна, тонкімі палоскамі. Далей рабіце ўсё слаямі. Высыпаеце бляшанку кукурузы, вядома папярэдне зліце ваду. Зверху пакладзіце тунец, але з бляшанкі таксама трохі зліце вадкасць, разамніце яго відэльцам. Агурок і памідор наражце тонкай саломкай. Апошні слой – сыр. Надзярыце яго на дробнай тарцы. Слаі можна мяняць, як захочаце.

Запраўка: алей + соль + трохі лімоннага соку. Усё добра перамяшайце і заліце салату.

Смачна есці.

**Проста Марыя.**







СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | 1 | | | | | |
| | | | | 2 | 8 | | | 1 |
| | | | 7 | | | 8 | 3 | |
| 7 | | | | 5 | 9 | | 2 | |
| 5 | 8 | | | | | | 7 | 6 |
| | 3 | | 8 | 4 | | | | 5 |
| | 6 | 7 | | | 3 | | | |
| 1 | | | 4 | 7 | | | | |
| | | | | | 1 | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



Паважаныя чытачы, а ў нас для вас чарговы сюрпрыз. Спецыяльна для вас мы склалі крыжаванку. У нашых заданнях вы знойдзеце не толькі агульнасусветныя пытанні, але і тыя, якія з'яўляюцца часткай нашага мясцовага жыцця.

Атрымлівайце задавальненне, правярайце веды і веданне мясцовай гісторыі і сённяшняга жыцця.

Адказы на крыжаванку гэтага нумара чакайце праз тыдзень, у №50 “Рэгіянальнай газеты”.

Калі вы хочаце, каб мы і далей прыемна здзіўлялі вас, падпісвайцеся на “РГ” на 2017 год, каб і ў новым годзе мы радавалі вас яшчэ больш!

**Па вертыкалі:**

2. Назва сучаснага Даўгапілса ў летапісе як крыжацкай фартэцыі.
4. І род князёў ВКЛ, і прадмет інтэр'ера.
5. Вёска на Валожыншчыне, дзе асветнік Сымон Будны надрукаваў тэалагічны трактат.
6. Пачатак світання.
8. Гэта трэба, каб беларус прыехаў у Вільню.
9. Адзін з відаў друкаванай прадукцыі.
12. Ахвяра дзеля больш хуткага развіцця, захопу цэнтра ці абвастрэння гульні.
13. Тытул Аляксандра Македонскага і Понція Пілата.
15. Слодыч для каня.
16. Возера, што ўзнікла пры адступленні ледавіка. У навейшай гісторыі – арэна наступальнай аперацыі і рыбацкай забастоўкі.
17. Міфічная істота, якая памірае, калі своечасова не ўвільгатніць валасы.
19. Часам нават лепш за золата.
20. “….. дзяцінства”, верш паэта з Маладзечаншчыны Кастуся Цыбульскага.
21. Найменшы элемент для захавання інфармацыі ў квантавым камп'ютары.
26. Калі яна будзе блакітнай, то вы з'ясце менш.
27. Зборнік паэта, які памёр ад сухотаў.
28. Яе рабочы інструмент – серп.
30. Імя Віліі пасля праходжання літоўскай мяжы.
31. Дзіця адамашанага драпежніка.
32. Від спорту, у якім на сёлетняй алімпіядзе ў Рыа выступаў маладзечанец.

**Па гарызанталі:**

1. Чорныя маліны.
3. Першая фаза месяца.
7. Бык, якога часта выкарыстоўвалі ў сельскай гаспадарцы.
10. Паэтычны прыём і матэматычны тэрмін.
11. І свята, і беларускі пісьменнік.
12. Свята ачышчэння агнём, дзень сустрэчы зімы з летам.
13. Адзін з трох агрэгатных станаў рэчыва.
14. Анкета – першае ўражанне пра новага работніка.
18. Дзюшэс.
22. Адмысловы стол для сталяра.
23. Прылада для пакарання прыгонных сялян.
24. Зварот да жанчыны, калі вы непадалёк ад Эйфелевай вежы.
25. Каманда вышэйшай лігі, якая ў гэтым годзе спаборнічала ў Маладзечне.
26. Сярэбраная манета, папулярная ў Еўропе.
27. “Зямля і …” – тайная рэвалюцыйная народніцкая арганізацыя ў 19 стагоддзі. Мэта – сялянская рэвалюцыя.
28. Каваны выраб, аўтарам якога лічаць аўтара верша “Зайграй, зайграй, хлопча малы”.
29. Без гэтага грэчаская трагедыя бессэнсоўная.
33. Расліна, што сапсавала персідскі ўзор у вершы класіка.



ГАРАСКОП
2-8 СНЕЖНЯ

**Авен.** Часцей праяўляйце разуменне, мяккасць, чуласць. Развівайце ў сабе інтуіцыю, яна дазволіць вам разабрацца ў шмат якіх заблытаных справах.

**Цялец.** Смела рухайцеся наперад, ніякія перашкоды вас не павінны спыняць.

**Блізняты.** Калі вы моцна стаміліся, то не ўстане паступаць правільна. Адсюль вялікая верагоднасць памылак. Кіньце нейкія справы і адпачніце.

**Рак.** Не будзьце такімі саманадзейнымі і не ўлазьце ні ў якія грашовыя аперацыі, бо рызыкуеце панесці страты. Нават калі вы распланавалі і прадумалі, калі ёсць план дзеянняў, но на практыцы ўсё можа пайсці інакш.

**Леў.** Вам добра было б адправіцца ў якое-небудзь, хоць кароценькае, падарожжа. Вам проста неабходныя новыя эмоцыі і прыліў сіл. Бо стомленасць можа выліцца ў незадаволенасць сабой і іншымі.

**Дзева.** Вас наведае святочна-вясёлы настрой. Зоркі раяць заняцца домам – наводзіць парадак, купляць прадметы інтэр'еру і ўвогуле паляпшаць сваю жылую прастору.

**Шалі.** Не за гарамі навагоднія святы. Добра было б заняцца домам. Верагодна, прыйдзецца нямала папрацаваць, але гэтыя клопаты прынясуць вам больш задавальнення, чым аднімуць ад вас сіл і часу.

**Скарпіён.** Наступае такі перыяд, калі вы з'яўляецеся гаспадаром свайго лёсу. У вас ёсць сілы і імкненні, каб рабіць крокі наперад, каб не стаяць на месцы. Злы лёс і добры цяпер не будуць умешвацца ў вашы дзеянні.

**Стралец.** Адчувайце сябе лёгка, не бярыце ў галаву лішнюю інфармацыю, не старайцеся ўсім разабрацца і ўсюды паспець – вам гэта зусім не трэба. Адпусціце падзеі ў свабоднае плаванне, а самі даверцеся кліку свайго сэрца. Рабіце толькі тое, што прыносіць задавальненне, а не тое, што лічыце правільным ці неабходным.

**Казярог.** Кіньце вы ўсе справы, якія прыносяць расчараванні, ды выкраіце час сабе. Нічога важнага і сур'ёзнага на гэтых днях не адбудзецца.

**Вадалей.** Дазвольце сабе адпачыць. Вы гэта заслужылі.

**Рыбы.** Чаму вас мучаць няўпэўненасць і сумненні, калі ваша становішча спрыяльнае. Вам няма чаго перажываць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**3 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / -3 | | -5 / -2 | | -4 / -4 | | -6 / +1 | |
| | 728 | ↓ 4 | 735 | ↘ 2 | 745 | ↓ 3 | 736 | ↘ 6 |
| Вільня | -3 / -3 | | -5 / -2 | | -6 / -6 | | -5 / +1 | |
| | 738 | → 2 | 744 | ↘ 4 | 755 | ↘ 1 | 747 | ↘ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.14
Захад 16.51
Даўжыня дня 7.37

Усход 11.52
Захад 20.39
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -18 °C у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +9,2 °C у 2009 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,8 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Скажы мне, што ты чытаеш, і я скажу, хто ты.
– Цікава… Я чытаю Платона, Сакрата, Гамера.
– Трапло ты, Мікола.

***

Ідэальная сям'я.
Жонка:
– Каханы, ідзі гарэлку піць.
Муж:
– Пачакай, любая. Я яшчэ падлогу не памыў.

***

– Мама, а калі чарвяка разрэзаць, яговыя два кавалачкі будуць сябраваць?
– З табой – не!



● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



**На шчаслівыя вочы дзіцяці можна любавацца бясконца. А шчаслівая ўсмешка можа зарадзіць цеплынёй, нават калі на парозе зіма.**

Фота Таццяны БАНКОВІЧ.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ І ВІЛЕЙЦЫ

# Як вы будзеце ўпрыгожваць сваё жыллё да Новага года?



**Марыя Бельская, шматдзетная мама, Маладзечна:**
– Штучная ёлка аж пад столь, цацкі з мінулага свята, некалькі новых, некалькі самаробных, ну, і дзеці ўжо навыразалі сняжынак, балерын, анёлкаў і іншай прыгажосці з паперы на вокны, пад столь. Буду цяпер думаць, куды гэта ўсё змясціць.



**Марыя Кіпель, вучаніца, Вілейка:**
– Паколькі надыходзячы год – год Вогненнага Пеўня, то і дом, і ёлку будзем упрыгожваць у жоўта-чырвоных колерах, каб улагодзіць сімвала года.



**Уладзімір Сарочкін, работнік культуры, Маладзечна:**
– Мая задача – даставіць ёлку. А ўжо ўсё астатняе – цацкі, гірлянды – клопат сына.



**Аксана Максімовіч, педагог, Вілейка:**
– На Новы год мы ставім тры ёлкі: адну вялікую ў зале і дзве маленькія – на кухні і ў дзіцячым пакоі. На дзверы вешаем вянок. Дачка выразае сняжынкі і прыклейвае на вокны. Па ўсіх пакоях – бліскучы "дождждык".



**Наталля Міхалевіч, студэнтка, Вілейка:**
– Усё будзе як звычайна. Мама з татам купляюць ёлку, дастаём цацкі. Усёй сям'ёй упрыгожваем ёлку, камін і ўвесь дом.



**Аляксандр Маркаў, кіроўца, Маладзечна:**
– Ёлку пастаўлю. А наконт розных сняжынак па кватэры я не замарочваюся.



**Бажэна Ганушкіна, настаўніца, Вілейка:**
– Ёлку ўпрыгожваю манахромна: срэбныя цацкі і гірлянда сіняя. Але кожны год перад святамі бывае такі настрой, што хочацца рабіць нешта сваімі рукамі. Таму раблю розныя рэчы арыгамі і ўпрыгожваю кватэру імі: ёлачкі для сталоў, вянок на дзверы, фігуркі для паліц, шафаў. І абавязкова сняжынкі на вокны і люстэркі, зробленыя з дапамогай зубной пасты і трафарэтаў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1127) 2.12.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1169. Падпісана ў друк у 9.00 1.12.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E-mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.